# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenni**

**Сусьветнае сеціва:** *e-krama.com, pahonia.com*
**Электронны адрас:** *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 4 (590)**
**Красавік 2015 г.**


# Гуканьне Вясны на Гудзоне



Чалавечая дзейнасьць сугучная з касьмічным рытмам прыроды. Усе каляндарныя абрады агульна, хоць і па-рознаму, выяўляюць канец і пачатак, паміраньне і адраджэньне прыроды. Праз усе абрады праходзіць ідэя ўзнаўленьня роду, самаго чалавека, таму тэма каханьня зьяўляецца найважнейшай.

Абрадам, якi пачынаў вяснавы цыкль, было Гуканьне Вясны. У кожным рэгіёне вясну “гукалі” ў розны час суадносна зь мясцовымі традыцыямі. Звычайна гэта рабілі зь 1-га сакавіка, але ніколі – пасьля Вялікадня.

Вясьнянкі сьпявалі ля вогнішча, у якім спальваліся старыя рэчы. Спальвалася лялька-Марэна, якая ўвасабляла сабою зіму, што нібы ў сьмяротны сон пагружала ўсю прыроду, каб мець спадзеў на росквіт прыроды й добры ўраджай, новае жыцьцё.

Вакол вогнішча вадзілі рытуальна-магічныя карагоды па крузе “за сонцам” ці ў выглядзе арнамэнту “крывога танка”. Абавязковым было гойданьне на арэлях, каб абудзіць сілы ветру й плоднасьць зямлі. Людзі верылі ў магічнасьць слова, таму галоўная дзейсная сіла пад час абраду выяўлялася ў перазовах чалавечых галасоў.

Нью-Ёрская моладзь Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, нягледзячы на марознае надвор’е й абяцаньне сьнежнага бурану, 1-га сакавіка сабралася на беразе ракі Гудзон у гадзіне язды ад Мангэтану, каб паклікаць вясну. У будынку лодачнай станцыі, які быў арэндаваны на гэты дзень, ўсе апрануліся ў народныя строі. А потым выйшлі на засьнежанае ўзьбярэжжа Гудзону, вада якога была скутая ільдом, што здараецца тут ня кожную зіму, а навокал ляжалі сумёты. На пляцоўцы ля станцыі, дзе быў расчышчаны сьнег, замацавалі наш бел-чырвона-белы сьцяг, ляльку-Марэну, зробленую з сухой травы, і папяровых птушачак, якіх дзяўчаты разьвесілі на дрэвах. Тады ўсе сталі ў кола, і загукальныя песьні пачалі ўплятацца ў карагоды. Усе прысутныя былі ўдзельнікамі й разумелі адказнасьць падзеі. Нібы пачуўшышы беларускія сьпевы, на верхавіны дрэваў, што стаялі абапал, раптам прыляцеў і разьмясьціўся цэлы вывадак птушак.



*заканчэньне на бачыне 3*

# Сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 7-га сакавіка, адбыўся чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня “Пагоні” сп. Віталь Зайка выступіў з уступным словам пра арганізацыю, пра бягучыя падзеі і зрабіў шэраг аб’яваў. Затым ён прадставіў госьця сходу дырэктара арганізацыі “Эўразія – Дэмакратычная Ініцыятыва” сп. Пітэра Залмаева.

Сп. Залмаеў прадстаўляе арганізацыю, што займаецца маніторынгам сытуацыі ў галіне правоў чалавека і дэмакратыі на постсавецкай прасторы, Ён распавёў пра сваю дзейнасьць, пра колішнюю працу ў складзе “Міжнароднай Лігі Правоў Чалавека” (ILHR). Апошнім часам ён непасрэдна ўдзельнічае ў аналітычных праграмах тэлеканалу “Аль-Джазіра” і выступае з аналізам падзеяў ва Ўкраіне і на постсавецкай прасторы на ўкраінскіх тэлеканалах, БіБіСі, “Дождж” ды іншых. Госьць адзначыў, што браў актыўны ўдзел у дапамозе беларускай апазыцыі, пачынаючы ад канца 1990-х гадоў, калі арганізацыю ILHR узначальвала сп-ня Кэты Фіцпатрык, і яе прадстаўнікі былі ў сталым кантакце зь лідэрамі беларускай апазыцыі, недзяржаўнымі арганізацыямі і журналістамі ў Беларусі. Сп. Залмаеў адзначыў, што ён і дасюль кантактуе з шэрагам прадстаўнікоў палітычных і грамадзкіх недзяржаўных арганізацыяў у Беларусі. Ён выказаў свае погляды адносна сытуацыі ў Беларусі і зьвязаў спробы Лукашэнкі легітымізаваць свой рэжым і аднавіць адносіны з краінамі Вольнага сьвету, выкарыстоўваючы падзеі ва Ўкраіне, а менавіта прапанаваўшы пасярэдніцтва ў палагоджаньні ўзбройнага канфлікту на Ўсходзе Ўкраіны, што актыўна падтрымліваецца Расеяй.

Затым сп. Пітэр Залмаеў распавёў пра падзеі ва Ўкраіне, што непасрэдна закранулі яго і ягоную сям’ю, бо паходзіць ён з Данецку, акурат з эпіцэнтру драматычных падзеяў апошняга году. Сп. Залмаеў даў сваю ацэнку гэтым падзеям, падкрэсьліўшы, што менавіта Расея справакавала і падтрымала канфлікт па дэстабілізацыі Ўкраіны, які



Сп. Пітэр Залмаеў

ўжо каштаваў тысячы жыцьцяў. Менавіта на Расеі, якая ўжо амаль не хаваючы вядзе агрэсію супраць Украіны, ляжыць увесь цяжар адказнасьці за тое, што цяпер адбываецца на Данбасе. Расея будзе адказваць ня толькі за страту жыцьцяў украінцаў, але і расейскіх вайскоўцаў, забітых ва Ўкраіне, за так званы “груз 200”, што адсылаюць назад у Расею ці проста хаваюць ва ўкраінскай зямлі ў безыменных магілах.

Сп. Залмаеў адзначыў, што дзякуючы ў вялікай меры той незацікаўленай і абыякавай пазыцыі, якую збольшага занялі і ўрады, і сродкі масавай інфармацыі краінаў Вольнага сьвету, расейскай прапагандзе ўдалося зрабіць вялікую працу па дэзінфармацыі сусьветнага супольніцтва, а расейскамоўных гледачоў дзяржаўных расейскіх каналаў амаль на сто адсоткаў переканаць у слушнасьці і пасьпяховасьці дзеяньняў Расеі й прарасейскіх сэпаратыстаў ва Ўкраіне, дэманізаваць украінскія ўлады і, заадно, лягнуць НАТО і Злучаныя Штаты за падтрымку “карнікаў” – так расейцы называюць украінскае войска, што змагаецца супраць расейскай агрэсіі. Дзеяньні расейскіх прапуцінскіх тэлекампаніяў даюць свае адмоўныя вынікі. Так, сытуацыя са зьбітым малазійскім ляйнэрам, калі, здавалася б, ужо было даказана, што гэта справа рук прарасейскіх або непасрэдна расейскіх сілаў – у выніку масіўнай кампаніі заблытваньня й дэзінфармацыі была зацягнутая “дымавой заслонай”, і тэма зьнікла з-пад увагі заходніх масавых сродкаў, палітыкаў і грамадзкасьці. Тое ж цяпер адбываецца з забойствам апазыцыйнага палітыка Барыса Нямцова – праз дэзінфармацыю, новыя і новыя вэрсіі праводзіцца адштурхоўваньне ад дэталёвага разгляду і аналізу, правакаваньне стомленасьці ад лішку навінаў, што і ёсьць асноўнай мэтодыкай расейскай прапаганды.

Потым сп. Залмаеў і ягоны калега сп. Палій адказалі на пытаньні прысутных.

Напрыканцы сходу сп. Зайка нагадаў пра маючае адбыцца 29 сакавіка сьвяткаваньне Дня Волі ў Нью-Брансўіку. Таксама госьці і сябры “Пагоні” мелі нагоду пазнаёміцца, падзяліцца думкамі й развагамі і працягнуць калегаваньне пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Новыя “Запісы БІНіМ” (№37. 2014)

Пабачыў сьвет новы, рэкордны паводле колькасьці старонак, выпуск альманаху “Запісы БІНіМ”. Асноўнаю тэмаю нумару сталі біяграфіі. Першы і найбольшы тэкст – біяграфічны даведнік “Беларуская паваенная эміграцыя”, складзены Натальлей Гардзіенка. На сёньня гэта, бадай, найпаўнейшы збор біяграмаў эміграцыйных дзеячаў, што апынуліся на эміграцы ў выніку Другой сусьветнай вайны. Тэма пэрсаналіяў працягваецца і ў наступных тэкстах “Запісаў”. Так чытач зможа знайсьці на старонках альманаху зьвесткі пра Лявона Рыдлеўскага, Аўгена Кавалеўскага, беларусаў Паўночнай Францыі, Пётру Крэчэўскага, Васіля Захарку ды іншых.




Выразна прадстаўленая ў новым выпуску “Запісаў” тэма беларускай эміграцыі ў Францыі ад XIX ст. – у тэксьце Зьмітра Мацьвейчыка, да другой паловы XX ст. – у тэкстах Тодара Цімафейчыка, а. Льва Гарошкі, Натальлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. Апошні публікуе цікавае ліставаньне Ніны Абрамчык пасьля сьмерці мужа з рознымі беларускімі дзеячамі, у тым ліку і ў справе архіваў Рады БНР. Важнай зьяўляецца й публікацыя лістоў Янкі Філістовіча з Парыжу да ягонага дзядзькі Міколы Скабея ў Мэльбурн ў 1948—1949 гг.

Асобным тэматычным напрамкам новага альманаху стала беларуская Прага. Акрамя біяграфічных матэрыялаў згаданых вышэй дзеячаў БНР, тут прадстаўленыя: складзены Міколам Трусам “Сямейны альбом” Уладзімера Жылкі”, ліст, артыкулы й бібліяграфія Тамаша Грыба, агляд зборніка “Замежная Беларусь”, прысьвечаны ўжо новай праскай эміграцыйнай рэчаіснасьці твор Макса Шчура “Ўпырхлікі”. Асобнай увагі заслугоўвае тэкст Паўла Котава “Беларускія месцы ў Празе”. Ён утрымлівае дакладныя адрасы, а таксама фатаздымкі ды мапу, дзе пазначаныя дамы й помнікі, зьвязаныя зь дзейнасьцю беларусаў розных часоў.

Новая рубрыка “З гісторыі філялёгіі 1920-х гадоў” рэпрэзэнтуе захаваныя сярод асабістых папераў Антона Адамовіча канспэкты лекцыяў, што ён слухаў у часе навучаньня ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Унікальныя тэксты, добра пракамэнтаваныя Ціханам Чарнякевічам і Вячаславам Мартысюком, адлюстроўваюць зьмест беларускай унівэрсытэцкай адукацыі канца 1920-х гг.

Значную частку “Запісаў” складаюць матэрыялы дзейнасьці эміграцыязнаўчай сэкцыі IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі, што адбыўся ў Коўна ў кастрычніку 2014 г. Тут прадстаўленыя тэксты значнай часткі ўдзельнікаў з розных краінаў, у тым ліку Вольгі Зубко (Украіна), Уладзімера Калупаева (Італія), Лены Глагоўскай ды Юрыя і Маржэны Грыбоўскіх (Польшча), а таксама беларускіх аўтараў Міколы Труса, Ірыны Багдановіч, Сяргея Шабельцава, Ганны Кісьліцынай, Вольгі Івановай, Ганны Запартыкі ды іншых. Тэматыка дакладаў закранае розныя аспэкты асэнсаваньня гісторыка-культурнай спадчыны беларускага замежжа: каштоўных дакумэнтаў з Браціслаўскага архіву Людмілы Краскоўскай, выданьняў беларускіх місіянэраў у Кітаі, твораў Вінцука Адважнага, эміграцыйнай “Новай газэты” з Буэнас-Айрэсу, “Дзёньніка” Дзьмітрыя Сямёнава ды “Запісак эмігранта” Лявона Савёнка, вусных успамінаў ды захаваных у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску асабістых фондаў эміграцыйных дзеячаў, і шмат іншага.

У рубрыцы “Публікацыі” прадстаўлены тэкст Лявона Юрэвіча, які ставіць праблему неабходнасьці вывучэньня беларускіх казак на эміграцыі. Ва “ўгодкавым” раздзеле публікуюцца матэрыялы, прысьвечаныя Язэпу Пушчу, а таксама невядомае апавяданьне Янкі Юхнаўца. Новая рубрыка “Вакол кнігі” сабрала чатыры апублікаваныя ў розных краінах рэцэнзіі на працу Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча “Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакумэнты. Асобы”.

Традыцыйна багатая й “Кніжная паліца”, дзе зьмясьціліся водгукі на інтэрнэт-часапіс канадыйскіх беларусаў “Сакавік” – “Культура, нацыя”, кнігу Васіля Стомы “Маё мястэчка”, збор твораў Масея Сяднёва, выдадзены “Кнігазборам”, а таксама багата іншых кніжных выданьняў, прысьвечаных праблемам эміграцыі, у адмысловым “Кніжным аглядзе”.

У “Хроніцы” можна знайсьці інфармацыю пра перадачу калекцыяў ды асобных каштоўных дакумэнтаў зь БІНіМу ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва ў Менску, стварэньне пры апошнім “Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыцы беларускага замежжа” ды іншыя значныя падзеі з удзелам БІНіМу за 2014 г.

Новы выпуск “Запісаў БІНіМ” атрымаўся надзвычай разнастайным й насычаным інфармацыяй. Многія тэксты нумару суправаджаюцца рэдкімі архіўнымі здымкамі. Дзякуючы апублікаваным у альманаху матэрыялам, чытачы могуць даведацца пра розныя аспэкты гісторыі і сучаснасьці беларускага замежжа.

***Яна СЛАВІНА***

# Гуканьне Вясны на Гудзоне

***Заканчэньне зь 1-й бачыны***

Находзіўшыся, усе пайшлі ў будынак станцыі, дзе сям’я Пётры й Алены Рыжых падрыхтавалі рытуальныя стравы. Трэба адзначыць высокую адказнасьць гэтых сужэнцаў, якія маюць трох малых сыноў і, незважаючы на празьмерную занятасьць, а часам і на стан здароўя, цягам ужо пятнаццаці гадоў арганізоўваюць правядзеньне беларускіх народных абрадаў. Дапамагаюць ім і іхныя дзеткі Янка, Алесік ды Марцінка, якія чакаюць гэтых сьвятаў. Мая справа – верхаводзіць у песьнях і карагодах, але бяз намаганьняў гэтае сям’і ніводнае сьвята арганізаваць было б немагчыма. За гэта ім нізкі паклон.

На кожным нашым абрадавым сьвяце да нас далучаецца нашая сяброўка прыгажуня ўкраінка Ліля з сыночкам. Вось і гэтым разам пасьля смачнага абеду загукальнікі маглі пачаставацца смачным макавым пірагом, які яна сьпякла.

Пад’еўшы, моладзь захацела патанчыць, але гэтую частку мы, нажаль, не прадбачылі. Паразмаўлялі пра палітычную сытуацыю ў Беларусі й Украіне. Так падыйшоў час разьвітвацца. Да таго ж узмацнілася сьнежная замяць, што абяцала праблемы з даездам дахаты. Але мы ўжо былі перакананыя, што ня доўга зіме засталося злавацца – прыйдзе вясна, і сонца пераможа холад, як і дабро ў сьвеце пераможа зло.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Кулінарыя для алігатрофаў

Знаёмыя і сябры ніяк не маглі надзівіцца, чаму я вярнуўся з Амэрыкі ў Эўропу. Хоць праца за зялёныя і пэрспэктывы на лепшае жыцьцё за акіянам ўжо выйшлі з моды, але для многіх Амэрыка надалей застаецца запаветным месцам. Трапіць туды па сёньняшні дзень нялёгка, хоць без параўнаньня з тым як было раней. Але таксама і ня вельмі танна – гэта наўрад ці калі зьменіцца з прычыны на адлегласьць. Адпаведна, вяртаюцца адтуль толькі няўдачнікі і гультаі, людзі якія адрынулі амэрыканскую мару, а разам зь ёю крэдыт на дом і “Мустанг” на выплату.

Але прычына майго вяртаньня менш празаічная. За два гады жыцьця ў Канзасе я да немагчымасьці стаміўся размаўляць пра ежу. Так, менавіта пра ежу, харчаваньне, кансумпцыю і пажыраньне. А таксама пра ўсё, што з гэтым зьвязана – атлусьценьне, пахуданьне, дыеты, соусы, прыправы, рэцэпты і бясклапотнае апаражненьне.

У прынцыпе, акадэмічныя супольнасьці шмат адна ад другой не адрозьніваюцца ні ў Амэрыцы, ні ў Эўропе, тэндэнцыі паўсюль аднолькавыя. І ўсё ж тон разьвіцьця задае, прынамсі пакуль яшчэ, як раз піянэрскі кантынэнт. І паколькі жыць мне было наканавана менавіта ў інтэлектуальным гулагу, то так атрымалася, што размова пра ежу ў салёнах і ў кулюарах зрабілася самай бясьпечнай і амаль бяскрыўднай тэмай. Найперш таму, што тэма гэтая сама па сабе што ні ёсьць самая дэмакратычныя, ядуць і выдаляюць багатыя і бедныя, адукаваныя і простыя, здаровыя і хворыя, нашыя і чужыя. Заўжды цікава даведацца, якая мэксіканская рэстарацыя ў горадзе аўтэнтычнейшая, а якая з прымесьсю амэрыканскай кухні, або ў якой азіяцкай сталоўцы сушы ёсьць, а дзе яго не прапаноўваюць. Цікава таксама, у якім штаце якая сетка хуткага харчаваньня найпапулярнейшая, а якой няма наогул. Можна нават паспрачацца, ці італьянская кухня вышэй за французскую, але з параўнаньнямі, як з салодкім дысэртам, трэба быць трохі асьцярожней.

На адной зь нядаўніх прэзэнтацый маёй апошняй кніжкі мне задалі стандартнае пытаньне – пра што будзе наступная кніжка. Так далёка я звычайна не пляную, таму ў пошуку адказу пачаў вадзіць зрокам навокал, як гэта робяць непадрыхтаваныя вучні, і паколькі прэзэнтацыя адбывалася ў кнігарні, то мой зрок спыніўся на вокладцы адной са шматлікіх кніг. Гэта была кулінарная кніжка, і я тут жа кінуў, што, відаць, напішу пра гатаваньне. І хоць пра гатаваньне я ня маю абсалютова ніякага паняцьця, то ўсё ж такі два гады слуханьняў на гэтую тэму грэх было б ня выкарыстаць. Ну а пры нагодзе прапаноўваю першы рэцэпт.

Адразу папярэджу, што чакаць чагосьці асабліва смачнага, эстэтычнага, ні тым больш новага і экзатычнага ня варта. Маё кулінарнае мастацтва трыццацігадовага з хвосьцікам кавалера (кавалер усё ж гучыць лепш чым халасьцяк або бабыль) кіруецца іншымі прынцыпамі. Ежа ў першую чаргу для таго, каб не памерці з голаду. Чалавек не жыве для таго, каб марнаваць час на гатаваньне. Свае дранікі лепш за чужое бурыта не таму, што яны смачнейшыя або прыгажэйшыя, а таму што верагоднасьць занядужаньня дрыстуном ад свайго нашмат меншая.



*Мой першы рэцэпт гэта варэнікі з упакоўкі. Адзіная праблема купленых, гатовых пяльменяў у тым, што яны ствараюць уражаньне жаваньня гумы. Гэтую праблему можна вырашыць наступным чынам. Загатуйце ў глыбокім двухтрохлітровым рондлі вады, адключыце пліту і ўкіньце ў ваду вашыя варэнікі з упакоўкі, вядома, загадзя іх размарозіўшы. Пасьля таго як яны ўсплывуць, пакіньце іх у вадзе яшчэ на пару хвілінаў. У гэты час засмажце на патэльні дзьве-тры парэзаныя цыбуліны, і калі яны пачнуць залаціцца, пакладзіце на патэльню варэнікі. Смажце іх тры хвіліны з аднаго боку і тры хвіліны з другога. Есьці можна з кечупам, гарчыцаю, маянэзам, фактычна з чым заўгодна. Хутка, смачна і без запору.*

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| Ю. Малахаў | 60 |
| П. Пацэнка | 60 |
| А. Тоўсьцік | 60 |
| А. Цяценькін | 60 |
| Г. Шарко | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя** *Viktar Yedzinovich.*

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **11-га красавіка 2015 г.** у Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****. Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.* ***Заля на 2-м паверсе.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| Т. Бэрд | 30 |
| Ю. Малахаў | 30 |
| П. Пацэнка | 30 |
| А. Тоўсьцік | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*